Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

27 чэрвеня-3 ліпеня 1997 года

# Рэгіянальная газета

№26 (114)

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

Магнаты прамысловасці рэгіёна

ААТ "ЭЛЕКТРАМОДУЛЬ"

3-я старонка.

# СМЕРЧ

## Нашы людзі такога не памятаюць. Нават самыя старыя. Надвячоркам у панядзелак над тэрыторыяй рэгіёна пранёсся смерч. Былі і ахвяры

### Маладзечанскі раён.

*Смерч пранёсся па раёне і пакінуў свае сляды ад Пятроўшчыны да вёскі Літва. Асабліва пацярпелі Малыя Кашэўнікі. Дачныя домікі за вёскай Выверы не вытрымалі моцнага ўрагану, бурыліся, быццам, картачныя. Знесла дахі ў гаспадарчых будынках у калгасах "Усход", "За ўладу Саветаў". Работнікі Маладзечанскіх электрасетак апынуліся ў цэйтноце з-за шматлікіх парываў ліній электраперадач у Маладзечанскім і Валожынскім раёнах. У надзвычайных абставінах была створана аператыўная група па ліквідацыі вынікаў урагану.*



Воданапорная вежа зламалася, як запалка. Насупраць дач ля Малых Кашэўнікаў.

### Дрэвы ляцелі...

*Вёска МАЛЫЯ КАШЭЎНІКІ. Ці жывы ты?— пыталіся адзін ў аднаго жыхары Малых Кашэўнікаў.*

Гаворыць **Сцепаніда КУРЫЛОВІЧ.** Першы раз яно пачалося, як выганялі ў поле. У тры гадзіны. Стала загрымлівацца. Бабы кажуць: дождж будзе. А тут сена трэба сушыць. Але - хай сабе дождж. Каб толькі без грымот. Пайшлі дамоў. Пачатак чацвер-

*Заканчэнне на 2-й стар.*

## Патрабуюцца на работу

*АСТРАВЕЦ.* Юрыст з вышэйшай адукацыяй, намеснік начальніка дзяржстраху (мужчына, выш. адук.), праграміст на камп'ютэр, інжынер, аўтамеханік, эканаміст па працы. Цагельня запрашае шмат рабочых (без спецыяльнасцяў) на сезонныя работы. **Т. для даведак 20687.**

*ВІЛЕЙКА.* Па-ранейшым неабходныя токары, слесары-фрэзероўшчыкі, муляры, тынкоўшчыкі. Райспажыўсаюз запрашае прадаўцоў на сяло. У сельскія гаспадаркі таксама неабходныя аграном, інжынер, бухгалтары, заатэхнік, трактарыст. Радыёмеханік, таваразнаўцы, слесары-электразваршчыкі. **Т. для даведак 54113.**

*СМАРГОНЬ.* Муляры (10 чал.), маляры-тынкоўшчыкі (10), плітачнікі-абліцоўшчыкі (6), газаэлектразваршчыкі (2), фрэзероўшчыкі (3), шліфоўшчыкі (2), галоўны бухгалтар, юрысконсульт, фармацэўт, наладчыкі такарных аўтаматаў (3) і станкоў з ЧПУ (3), токары (4). **Т. для даведак 32130.**



## Пакінулі ў дурнях

### Разумныя, здаецца, людзі. Былі...

*МАЛАДЗЕЧНА. Мінулымі выхаднымі больш за два дзесяткі гараджан сабраліся, каб падмануць адзін аднаго, а ўрэшце, амаль у поўным складзе, стаць... дурнямі.*

*Працяг на 3-й стар.*

## Навіны

### Без сваёй крыві жыць можна

*ВІЛЕЙКА. 11,5 літраў крыві страціла Таццяна Навіцкая. Але засталася жыць.*

Сакрэт феномена просты: адбылося гэта за 17 год донарскага стажу жанчыны. Раней донары атрымлівалі дадатковыя дні да адпачынку, цяпер жа за 425 грамаў крыві выплачваюць па дзве мінімальныя зарплаты.

Сумна, але сённяшняе жабрацкае існаванне падштурхнула многіх да такога спосабу заробку на жыццё. Калі раней работнікі станцыі пералівання крыві выязджалі па прадпрыемствах у пошуках добраахвотнікаў, то сёння адбою ад жадаючых няма. У невялічкім памяшканні станцыі заўсёды стаіць чарга. Патэнцыяльныя донары праходзяць строгі адбор. Не ў апошнюю чаргу патрабуюць ад іх даведкі ад нарколага і венеролага.

*Аддзел інфармацыі.*

### Першы святар

*АСТРАВЕЦ. Упершыню за ўсю гісторыю краю тут з'явіўся свой дамарослы святар. Гэта Віктар Субель, які нядаўна скончыў Гродзенскую духоўную семінарыю і стаў ксяндзом.*

У мінулую нядзелю ў перапоўненым людзьмі касцёле Косма і Дзям'яна ксёндз Віктар Субель адслужыў сваю першую імшу. Яна пачалася са слоў-успамінаў ксяндза-прапата Алёйзы. Ён распавядаў пра тое, як імкнуўся ксёндз Віктар да навукі Божай, пра тыя перашкоды, што чынілі тагачасныя ўлады, бо наведванне касцёла дзецьмі было забаронена.

Пасля імшы ксёндз Віктар прымаў віншаванні ад ксяндзоў бліжэйшых парафій, моладзі, а таксама родных і хросных бацькоў. Затым ксёндз Віктар меў блаславенне. Дарэчы, для тых людзей, што былі ў той дзень у споведзі і бралі святую камунію, яно мела сілу, раўназначную прынятаму ад Папы Рымскага, і давала людзям адпушчэнне ўсіх грахоў.

Завершылася ўрачыстасць выступленнем хору "Глос з-над Немна" з Гродна.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### Як і ўсе

*СМАРГОНЬ. Мінулы тыдзень для горада быў незвычайным. Тут упершыню праходзіў занальны фестываль творчасці інвалідаў "Глядзі на мяне, як на роўнага".*

Удзельнікаў з Ашмянаў, Астраўца, Смаргоні прымаў пад сваім дахам гарадскі Дом культуры, а ладзіла фестываль рэспубліканскае таварыства інвалідаў сумесна з міністэрствам культуры.

І калі з суседніх раёнаў на фестываль папрыязджала не больш за 5-10 чалавек (не знайшлося транспарту), то прадстаўнікоў са Смаргоншчыны тут была большасць. Вялікае месца займала выстаўка работ інвалідаў - ручнікі, дываны, вырабы з дрэва і многае іншае. Быў праведзены і музычны конкурс, дзе ўдзельнікі гралі на розных інструментах.

Ніводны з удзельнікаў фестывалю не застаўся па-за ўвагай, кожны атрымаў падарункі, а лепшыя творы інвалідаў прымуць неўзабаве ўдзел у рэспубліканскім конкурсе.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### - Ты хто?
### - Я!? Залаты арол!

*РАДАШКОВІЧЫ. АТ "Белмастацкераміка" узнагароджана міжнародным прызам "Залаты Арол" з правам адпаведнай маркіроўкі сваёй прадукцыі.*

Дырэктар прадпрыемства М. Кладаў расказаў "РГ", што ў рамках праграмы "Партнёрства дзеля прагрэсу" "Белмастацкераміка" зацверджана яе ўдзельнікам. 17 ліпеня ён мае намер быць у Германіі, дзе пачнуцца цырыманіяльныя мерапрыемствы.

*Аддзел інфармацыі.*

### Валожын святкуе 590-годдзе

*ВАЛОЖЫН. Упершыню гараджане адсвяткуюць "дзень нараджэння". Першы летапісны ўспамін пра паселішча з назвай Валожын датуецца 1407 годам.*

Святочныя мерапрыемствы адбудуцца на працягу апошняга чэрвеньскага тыдня і завершацца ў нядзелю. Уранні гэтага дня ў царкве святых Канстанціна і Алены, якая і да сёння з'яўляецца самым вялікім па плошчы драўляным праваслаўным храмам на тэрыторыі Беларусі, адбудзецца святочная літургія.

На гарадскім стадыёне ў вялікай канцэртнай праграме выступяць самадзейныя калектывы і асобныя выканаўцы з Валожына, Зарайска (Расія), Ашмянаў, Маладзечанскага і Стаўбцоўскага раёнаў, Савецкага раёна сталіцы, заслужаныя артысты рэспублікі і даўнія сябры валожынцаў - Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч, Аляксей Ісаеў, фальклорна-харэаграфічны ансамбль "Харошкі" і іншыя.

Завершыцца свята а 23-й гадзіне феерверкам.

Горад у чаканні сустрэчы са шматлікімі гасцямі, землякамі, чые прозвішчы ўпісаныя ў гісторыю Беларусі і не толькі. Спецыяльна да падзеі распрацаваны герб Валожына.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

### Варона і касцёл

*АСТРАВЕЦ. Георгіеўскі касцёл, што знаходзіцца на ўскраіне вёскі Варона на могілках, быў пабудаваны ў сэрэдзіне 18 стагоддзя і з'яўляецца помнікам архітэктуры позняга барока.*

За яго рэстаўрацыю ўзяўся ксёндз Здзіслаў з Георгіеўскага касцёла, што ў Варнянах. Раз на тыдзень ён збірае парафіянаў на абсталяванай пляцоўцы ля касцёла і праводзіць богаслужэнні. Людзі, хто колькі можа, збіраюць грошы на аднаўленне касцёла.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### Снарады растуць з зямлі

*ВАЛОЖЫН. За вясну выяўлена 5 выбухованебяспечных прадметаў. Для параўнання, за ўвесь мінулы год - толькі 2.*

Першы снарад знайшлі ў вёсцы Ганчары Вішнеўскага сельсавета. Праз некаторы час два 150-міліметровыя снарады былі завезены з тарфакрошкай на Івянецкі племптушказавод.

Наступны напамін аб вайне зафіксаваны ў двары жыхара вёскі Бомбалы Сакаўшчынскага сельсавета. Яшчэ адзін артылерыйскі снарад выявілі работнікі лясгасу пры распрацоўцы пясчанага кар'ера ля гэтай вёскі. Веснавое поле падкінула работы сапёрам у калгасе імя Гастэлы.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

### Самая галоўная навіна:

*у мінулую сераду ў чарговы раз нарадзіўся Васіль Савіцкі.*

Падзеі мы шчыра радыя, думаем, што чытачы "РГ" нас падтрымліваюць.

*Аддзел віншаванак.*

## Суббота, 5 июля

**БТ**

**8.00, 15.00** Новости. **8.35** Конный спорт. **8.55** Под углом 23,5 градуса. **9.20** **РЕГИОН**. **9.55, 10.55, 12.15** Минский марафон-97. **10.15** Зеркало. **10.35** Музобойма. **11.15** Все нормально, мама! **11.45** Судьба моя и надежда. **12.35** 4-е измерение. **13.00** Многоголосие. **13.30** Телеспорт. **14.15** Макаенка, 9. **14.40** Творцы. **15.20** "Музыка спортивных арен". Д/ф. **15.30** М/ф. **16.20** Риск-версия. **16.50** Белорусский дом. **17.20** Галерея. **17.55** Футбол. *"Динамо-93" — "Дуйсбург"*. **20.00** Панорама. **20.50** Теленавигатор. **21.00** "Минск — моя столица". Водная феерия. **0.05 Видимо-невидимо.**

**ОРТ**

**7.00** Х/ф "От и до". **8.05** М/ф. **8.40** Лотто-Миллион. **8.45** Домашняя библиотека. **9.00, 14.00, 17.00** Новости. **9.10** Слово пастыря. **9.30** Утренняя почта. **10.05** Каламбур. **10.35** Смак. **10.55** Возвращение Третьяковки. **11.20** Х/ф "Однажды двадцать лет спустя". **12.40** А.Филиппенко: "Если..." **13.25** Очевидное — невероятное. **14.20** М/ф. **15.10** "Триумф" Е. Кисина. **15.40** В мире животных. **16.15** Колесо истории. **17.20** КВН-ассорти. **17.55** Х/ф "Мужики!". **19.45** Спокойной ночи! **20.00** Время. **20.55** Х/ф "Большая перемена". **22.10** Баскетбол. **23.45** Х/ф "Пятый в квартете".

**РТР**

**7.00** Утренний экспресс. **8.05** Меморина. **8.30** Адреналин. **8.45** Доброе утро, страна! **9.30** В мире животных. **10.00** Вести в 11. **10.15** Хочу в артисты! **10.55** Наш сад. **11.20** Русский хоровод. **12.00** Анонимные собеседники. **12.25** Караоке по-русски. **13.00** Вести про... **13.20** "ОП-центр". Х/ф (США). 1-я с. **14.10** Бесконечное путешествие. **14.35** Двойной портрет. **15.05** Галерея РТР. **15.30** Телескоп. **16.10** Мужчина и женщина. **16.55** Субботний вечер с Ю. Башметом. **17.55** Волейбол. **19.00** Вести. **19.35** Сам себе режиссер. **20.10 "Любовь и пули"**. Х/ф (Вел). **22.00** Момент истины. **22.55** Волейбол. **0.10** Репортер. **0.30** Программа "А".

**5**

**9.30, 12.30, 15.30, 18.30, 21.30** Информ ТВ. **9.45** Хуторок. **10.15** Честь имею. **10.45** "Индаба". **11.05** "Необузданная Африка" **12.00** Наобум. **12.45** Страсти-мордасти. **13.05** Телетеатр И. Владимирова. **14.45** Исторические расследования. **15.45** Сьюзи Кватро в Петербурге. **16.05** Равняется любовь. **16.35** М/ф. **16.50** Театральная провинция? **19.00** "Падший ангел". Х/ф (Грузия). **20.10** ЧМ по таэквондо. **20.45** Блеф-клуб. **21.20** М/ф. **21.45** Парад парадов. **22.15** "Русская рулетка". Х/ф.

**НТВ**

**7.00** Сегодня. **9.00** М/ф **9.30** Пойми меня. **10.00** Х/ф "Воины времени". **10.45** От "Винта". **11.00, 15.00** Сегодня. **12.00** Х/ф "Танцор рока" (Индия). **14.30** Панорама. **16.00** Х/ф "Отряд особого назначения". **17.30** Дог-шоу. Я и моя собака. **18.00, 21.00** Сегодня. **18.30** Герой дня без галстука. **18.55** Х/ф "Зубастики-2". **20.45** Куклы. **21.45** "Байки из склепа". **22.40** Империя страсти. **23.20** Уимблдон-97. **0.50** Плейбой-шоу.

**TV6**

**6.00, 7.00, 18.10, 22.25** 6 новостей. **6.10** Музыка кино. **6.30** Клуб "12 копеек". **7.10** Дорожный патруль. **7.35** М/ф. **8.00** Цептер-приз. **8.10** Х/ф "Веселые истории". **9.40** Ералаш. **10.20** "Дикая природа Австралии". **12.00** Д/ф "Заговор с целью убийства Папы Римского". **13.00** Диск-канал для детей. **13.55** Я сама. **14.55** Профессия. **15.45** Клуб одиноких сердец. **16.20** "Семья робинзонов". **17.15** Нью-Йорк, Нью-Йорк. **17.45** Киноподробно. **18.20** И. Юнг. **18.55** Скандалы. **19.30** ОСП-студия. **20.20** Фитиль. **20.35** Х/ф "Спортлото-82". **22.35** Обоз. **23.30** Дорожный патруль. **23.45** Диск-канал. **0.50** Х/ф "Мститель".

## Воскресенье, 6 июля

**БТ**

**8.00** Коктейль по воскресеньям. **9.00** Телебом. **9.30** Все дело в шляпе. **10.00** Вершина мира. **10.35** Все нормально, мама! **11.10** Туробъектив. **11.40** Арсенал. **12.10** "Война в воздухе". **12.35** Сельчане. **13.05** "Сказка Купалья". **13.30** Олимп. **13.50** Сущность. **14.20** Золотые ключи. **15.00** Новости. **15.15** Компьютерный полигон. **15.40** Уникум. **16.20** "Портреты". **16.45** Музыкальный салон с Элеонорой Езерской. **17.25** Оскар. **17.55** Х/ф "Купальская ночь". **19.05** Бездельник. **19.40** Колыбельная. **20.00** Резонанс. **20.50** **СТК**. **21.10** Телебарометр. **21.25** Карамболь. **22.05** Х/ф "Успех как лучшая месть" (Фр-П). **23.35** Бархатный сезон. **0.05** Купалье.

**ОРТ**

**7.00** Х/ф "Я объявляю вам войну". **8.25** М/ф. **8.55** Спортлото. **9.00, 14.00, 0.10** Новости. **9.15** Непутевые заметки. **9.30** Пока все дома. **10.05** Утренняя звезда. **10.55** Служу России! **11.25** Играй, гармонь любимая! **11.55** Сельский час. **12.20** "Подводная одиссея команды Кусто". **13.10** М/ф. **13.25** Смехопанорама. **14.15** Приглашение к музыке. **14.45** Баскетбол. **15.45** Мультфейерверк. **16.30** Один на один. **17.00** Футбольное обозрение. **17.30** Клуб путешественников. **18.20** Сериал "Строго на юг". **19.50** Киноафиша. **20.00** Время. **20.40** Х/ф "Большая перемена". 3-я с. **21.50** Баскетбол.

**РТР**

**7.00** Утренний экспресс. **8.10** Солти. **8.35** У всех на устах. **8.50** Доброе утро, страна! **9.30** Присяга. **10.00** Вести в 11. **10.15** Русское лото. **10.55** Без пяти двенадцать. **11.00** Книжная лавка. **11.25** Человек на Земле. **11.50** М/ф. **12.10** Последний гигант. **12.30** Сад культуры. **13.00, 19.00** Вести. **13.20** "ОП-центр". 2-я с. **14.15** Волшебный мир Диснея. **15.10** "Когда Витебск был Парижем". **Марк Шагал.** **15.35** Довгань-шоу. **16.05** Репортаж ни о чем. **16.20** Футбол без границ. **16.50** Праздник Терпсихоры. **17.40** L-клуб. **18.20** Аншлаг. **19.35** Четвертая власть. **20.00** Старая квартира. 1947 год. **21.05** У Ксюши. **21.35** К-2: "Уловка-22". **22.30** Площадь звезд. **23.20** Ночная жизнь городов мира. Лас-Вегас.

**5**

**9.30, 12.30, 15.30** Информ ТВ. **9.45** Папа, мама и я — спортивная семья. **10.15** Овертайм. Баскетбольный выпуск. **10.45** "Индаба". **11.10** "Необузданная Африка". **12.00** Негаснущие звезды. **12.20** М/ф. **12.45** Экспресс-кино. **13.05** "Родная кровь". Х/ф. **14.35** Звезды Мариинки. **15.45** Точка отсчета. **16.05** Праздник в Царском Селе. **16.55** Моя Россия: "Сталкер". **18.30** Обратный отсчет. **19.00** "Из жизни отдыхающих". Х/ф. **20.15** ЧМ по таэквондо. **20.45** Ноу смокинг. **21.30** У всех на виду. **21.45** Международное обозрение. **22.15** Черный кот. **22.50** "Операция "Мутанты". Х/ф (Исп, Фр).

**НТВ**

**7.00** Сегодня. **9.00** Устами младенца. **9.30** Пойми меня. **10.00** "Воины времени". **10.45** От "Винта". **11.00, 15.00** Сегодня. **12.00** Книжный магазин. **12.30** Маски-шоу. **13.00** "Каролина в Нью-Йорке". **13.30** Новости Голливуда. **14.00** Время "Ч". **14.30** Своя игра. **16.00** Уимблдон-97. **16.55** "Мафия". Ф.4-й. **17.30** Русские гвозди. **18.00** Сегодня. **18.30, 23.20** Уимблдон-97. **20.00** Итоги. **21.10** Х/ф "Канзас-сити" (США). **0.20** Третий глаз. **1.00** Плейбой-шоу.

**TV6**

**6.00, 7.00, 16.50** 6 новостей. **6.10** Музыка кино. **6.30** Скандалы. **7.10** Дорожный патруль. **7.45** М/ф. **8.10** Х/ф "На графских развалинах". **9.50** Пальчики оближешь. **10.30** Назло рекордам! **10.55** "Дикая природа Австралии". **12.05** Канон. **12.40** Музыка и пресса. **13.35** Мисс Москва-97. **14.45** Спорт недели. **15.15** Ералаш. **15.40** Москва И. Усачева. **15.55** Семья робинзонов. **17.00** Мое кино. **17.45** Телеконкретно. **18.00** Дорожный патруль. **18.20** Обозреватель. **19.10** Фитиль. **19.25** Х/ф "Сокровище моей семьи". **21.20** Шоу Бенни Хилла. **21.40** Х/ф "Пожиратель змей III". **23.25** PARTIZONE. **0.50** Выше только звезды!



## Юбілеі

# Усміхніся, дзядзька Мікола!



*10 ліпеня пісьменнік Мікола Капыловіч, творы якога даўно вядомыя беларускаму чытачу, адзначыць сваё 60-годдзе. Юбіляр нарадзіўся ў вёсцы Астрожанка Лельчыцкага раёна на Гомельшчыне. Вучоба ў сярэдняй школе, філфак Белдзяржуніверсітэта, работа настаўнікам, у выдавецтве, журналістам.*

Жыццёвыя шляхі-дарогі прывялі ў Маладзечна, дзе літаратар жыве і сёння. Сёння мы друкуем дзве навелкі члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Міколы Капыловіча. Рэдакцыя ж зычыць дзядзьку Міколу творчага плёну, здароўя і ўсмешак.

### Паступова.

Іду па вясковай вуліцы. Насустрач - Майсюк. Здалёк пазнаю: ён. Яшчэ б не пазнаць! Калі мы пазнаёміліся, мне ішоў васемнаццаты, а яму было нешта каля трыццаці. Рэдка бачыліся ў апошнія гады, але вось сустрэліся незнарок, выпадкова і цiснем адзін аднаму рукі. Рука ў Майсюка - адчуваю - нібы наждак.

- Як жывеш, Іван?

- Жыву, як усе. Два гады ўжо на пенсіі.

- Што цяпер робіш?

Спытаў і бачу: сумеўся Іван, зніякавеў. Не хочацца яму адказваць.

- Ведаеш, - марудна гаворыць ён, - я месяцы тры толькі і адпачываў.

- Чаму так?

- Ды стаміўся я адпачываць за гэтыя тры месяцы, - сарамліва ўсміхаецца Іван, а потым тлумачыць: - Паблындаўся тудысюды па двары, усё роўна як чаўнок у кроснах або, скажам, сабака на ланцугу... ну там плот... грады..., тое-сёе... Адпачыў ды і кажу сабе: хопіць, Ваня, пашукай якую-небудзь работу. Ну і знайшоў. Прасцейшая, канешне. Лягчэйшая. А ўсё ж пры людзях. Нельга нам, пенсіянерам, адразу работу пакідаць. Нашага брата, хлопец, ад работы, усё роўна што дзіцёнка ад матчынай цыцкі, паступова трэба адвучаць. Паступова!

### Мацюкацца грэх

Матчын брат, дзядзька Міхась, надта ж не любіў мацюкоў. І калі пры ім пачыналі брыдкасловіць, тут жа рэзка абрываў:

- Ну і язык у цябе - нібы стары дзяркач: адзін бруд з яго сплывае.

А сам па натуры быў гарачы. І калі што не так у яго выходзіць, адразу ўскіпіць.

А, маць... мацюкацца грэх! - на сярэдзіне лаянкі апамятаецца і пачне каяцца. - Мацюкацца грэх!

Вось які выхад прыдумаў дзядзька! З аднаго боку душу адвядзе лаянкаю, гарачку сваю астудзіць, а з другога - яшчэ мацней, услых зацвердзіць даўно вырашанае:

- Мацюкацца грэх!

## Тэлебачанне і радыё ў рэгіёне

# Смаргонцы абзаводзяцца пейджэрамі

*Размяшчэнне пунктаў тэлевізійнага вяшчання на тэрыторыі былога СССР планавалася так, каб усё насельніцтва мела магчымасць прымаць I праграму Цэнтральнага тэлебачання (сучаснае ОРТ). З пашырэннем сеткі перадатчыкаў гэта ж прадугледжвалася і для II праграмы ЦТ (сучаснае РТР). Гэта ўсё планавалася Масквой, а кожная рэспубліка імкнулася, па магчымасці, забяспечыць сваё насельніцтва мясцовай праграмай ТБ.*

Ашмянскі, Смаргонскі і Астравецкі раёны прымалі расійскія праграмы з літоўскага тэлецэнтра ў Вільні. З абвяшчэннем суверэнітэту Літва адмовілася ад трансляцыі расійскіх перадач і для забеспячэння рэгіёна гэтымі праграмамі быў пабудаваны радыётэлецэнтр у Смаргоні.

**На сённяшні дзень размеркаванне праграмаў выглядае так:**

*Геранёны*: Беларускае тэлебачанне (БТ) - VII канал, 5 кВт відэа, 500 Вт гук;

Грамадскае расійскае тэлебачанне (ОРТ) - 29 канал, 20 кВт відэа, 2 кВт гук;

*Стрэльчыкі* (Ашмянскі р-н): Расійскае тэлебачанне (РТР) - XII канал, 100 Вт відэа, 10 Вт гук;

*Астравец*: Беларускае тэлебачанне (БТ) - XI канал, 10 Вт відэа, 1 Вт гук;

*Смаргонь*: Беларускае тэлебачанне (БТ) - 36 канал, 5 кВт відэа, 500 Вт гук;

Грамадскае расійскае тэлебачанне (ОРТ) - 24 канал 1 кВт відэа, 100 Вт гук;

Расійскае тэлебачанне (РТР) - 22 канал, праектная магутнасць 1 кВт відэа, 100 Вт гук, але, як паведамлялася раней, па тэхнічных прычынах магутнасць часова зніжана ў 10 разоў.

З уводам у дзеянне на поўную магутнасць перадатчыка РТР у Смаргоні Ашмянскі раён трапляе ў зону ўпэўненага прыёму і з'яўляецца магчымасць трансляцыі са Стрэльчыкаў якой-небудзь іншай праграмы, напрыклад, НТВ ці С-Пб. Для гэтага мясцовым уладам неабходна звярнуцца ў адпаведныя арганізацыі з просьбай аб змене праграмы.

Жыхары Смаргоні і Смаргонскага раёна могуць рыхтаваць пейджэры, бо сёлета плануецца ўвод у дзеянне пейджынгавага перадатчыка ў Смаргоні. У перспектыве - увод чацвертага ТБ-перадачыка ў Смаргоні. Але гэта ўсё пакуль планы, для іх рэалізацыі патрэбныя грошы, якіх няма.

***В. ПЯСЕЦКІ,***
***старшы інжынер,***
***М. ЛІННІК,***
***вядучы інжынер.***

# На радыёхвалі

*Радыёвяшчанне вядзецца на доўгіх (ДХ), сярэдніх (СХ), кароткіх (КХ), ультракароткіх (УКХ) хвалях. Кароткахвалевы дыяпазон разбіты на некалькі паддыяпазонаў. Вяшчанне на ультракароткіх хвалях вядзецца ў двух паддыяпазонах: так званыя "еўрапейскі" (ФМ) і "савецкі" (ЧМ). Асаблівасць распаўсюджвання хваляў у прасторы вызначаюць колькасць і месца знаходжання перадатчыкаў для кожнага дыяпазона. З улікам таго, што радыё вельмі часта слухаюць аўтавадзіцелі, якія перамяшчаюцца па краіне, даем размяшчэнне пунктаў радыёвяшчання па ўсёй Беларусі з указаннем праграмаў і дыяпазонаў.*

**Беларускае радыё I.**

ДХ: Сасновы.

СХ: Брэст.

КХ: Калодзішчы, Брэст, Гродна, Магілёў.

УКХ-ФМ: Калодзішчы, Мядзел, Салігорск, Ракітніца, Пінск, Віцебск, Ушачы, Браслаў, Гомель, Смятанічы, Брагін, Жлобін, Гродна, Слонім, Геранёны, Магілёў, Бабруйск, Асіповічы.

УКХ-ЧМ: Калодзішчы, Мядзел, Салігорск, Беразіно, Ракітніца, Пінск, Віцебск, Ушачы, Браслаў, Відзы, Гомель, Смятанічы, Брагін, Жлобін, Магілёў, Бабруйск, Касцюковічы, Асіповічы.

**Беларускае радыё II.**

СХ: Калодзішчы, Мядзел, Салігорск, Брэст, Пінск, Баранавічы, Віцебск, Ушачы, Смятанічы, Гродна, Слонім, Геранёны, Магілёў, Бабруйск.

УКХ-ЧМ: Калодзішчы, Мядзел, Салігорск, Ракітніца, Віцебск, Ушачы, Браслаў, Відзы, Гомель, Смятанічы, Брагін, Жлобін, Гродна, Слонім, Геранёны, Смаргонь, Магілёў, Бабруйск, Касцюковічы, Асіповічы.

**Радыё Бі-Эй.**

УКХ-ФМ: Калодзішчы.

**Радыё Мір.**

УКХ-ФМ: Калодзішчы.

**Радыё Расіі.**

СХ: Калодзішчы.

**Радыё I (Расія).**

ДХ: Сасновы.

УКХ-ЧМ: Калодзішчы, Мядзел, Ракітніца, Пінск, Віцебск, Ушачы, Гомель, Смятанічы, Брагін, Жлобін, Гродна, Слонім, Магілёў, Бабруйск.

**Радыё II (Расія).**

СХ: Калодзішчы, Баранавічы.

УКХ-ЧМ: Мядзел, Ракітніца, Пінск, Віцебск, Ушачы, Гомель, Смятанічы, Брагін, Жлобін, Гродна, Слонім, Геранёны, Магілёў, Бабруйск.

**Маяк.**

СХ: Сасновы, Мядзел, Брэст, Пінск, Баранавічы, Геранёны.

УКХ-ЧМ: Калодзішчы.

**Радыё Рокс.**

УКХ-ФМ: Калодзішчы.

**Радыё ІНА.**

СХ: Сасновы.

КХ: Калодзішчы.

**Мінскае гарадское радыё.**

УКХ-ФМ: Мінск.

**Мясцовае радыё.**

УКХ-ЧМ: Калодзішчы, Віцебск.

Праграмы радыёперадач друкуюцца ў штотыднёвіку "Беларускае радыё і тэлебачанне".

***В. ПЯСЕЦКІ, старшы інжынер,***
***М. ЛІННІК, вядучы інжынер.***

# Крыжаванка з падказкамі




**По гарызанталях.**

**1.** Назва горада-героя ў час **2**-й сусветнай вайны. **8.** Раман Г. Далідовіча. **13.** Набор літар "ОАГЭК", які атрымаецца, калі правільна запоўніць клеткі па адпаведных вертыкалях. **15.** Населены пункт у Францыі. **16.** Ветлівы зварот да старых у Сярэдняй Азіі. **18.** Адмоўе. **19.** Прылада для прагляду фільмаў і г. д. **21.** Прадпрыемства па выпрацоўцы энергіі. **22.** Вялікі лес. **24.** Вялікая колькасць танкаў, караблёў. **25.** Палоска па краі абутку. **26.** Адзнака за праведзены прыём у каратэ, дзю-до. **29.** Месца для стаянкі судоў. **30.** Населены пункт у Мардовіі (Расія). **35.** Напітак з ягад, пладоў. **36.** Ветлівы зварот да мужчыны ў даўнейшай Беларусі, Польшчы, на Украіне. **37.** Падманная выява ў пустыні. **38.** Воін у старажытныя часы. **42.** Грашовая адзінка лацінаамерыканскай краіны. **43.** Жаночае імя. **45.** Мера плошчы. **46.** Рыба, здольная перамяшчацца па сушы. **48.** Частка дыхальнай сістэмы чалавека. **50.** Населены пункт у Мазамбіку. **52.** Марка расійскага аўтамабіля. **53.** Адзінка электрычнага супраціўлення. **55.** Скарочаная назва персанальнай ЭВМ. **56.** Адзінка мовы ў фанетыцы. **57.** Французскі кампазітар. **59.** Населены пункт у Анголе. **62.** Ачышчаны цукар у кавалках. **64.** Асадачная парода. **65.** Адсутнасць свабодных месцаў на канцэрце, спектаклі. **67.** Марка самалётаў. **68.** Сорт яблыні. **69.** R (англ.). **70.** Клей. **71.** Аўтамабільнае кола. **72.** Месца ў Крыме, дзе размешчана вядомае лецішча. **74.** Жывёла. **75.** Жаночае імя. **76.** Насякомае. **7.** Мужчынскае імя. **79.** Песня (таксама мужчынскае імя). **82.** Віцэ-прэзідэнт ЗША. **83.** Населены пункт у Іране. **85.** Харчовы прадукт. **86.** Чалавек, што прыводзіць прыгавор у выкананне. **87.** Месца жыцця вернікаў-пустэльнікаў. **88.** Першая частка многіх сродкаў перамяшчэння. **90.** Даўнейшая руская літара. **91.** Свяшчэннік. **93.** Вядомы рускі мастак. **94.** Нота. **95.** Надпіс у кінафільме. **96.** Шмат вялікіх узвышанасцяў. **97.** Краіна ў Азіі. **98.** Узбекскі футбаліст, які разбіўся ў авіякатастрофе. **99.** Жывёла. **101.** Палавіна папулярнай эстраднай групы. **104.** Частка нагі чалавека. **106.** Элемент некаторых гульняў. **107.** Узброеныя сілы дзяржавы. **109.** Месца для стаянкі аўтамабіля. **110.** Прылада для лоўлі рыбы. **111.** Плоскі хлеб.

**Па вертыкалях.**

**1.** Урач. **2.** Узор, кампазіцыя. **3.** Паэма Гамера. **4.** Гульня. **5.** Судна Тура Хеердала. **6.** Астатак свечкі. **7.** Кіраўнік факультэта ў ВНУ. **9.** Спецыяльнасць вучонага, урача. **10.** Лётчык вышэйшага класа. **11.** Мужчынскае імя. **12.** Марка самалётаў. **14.** Рэзкая розніца паміж чым-небудзь. **17.** Жанр мастацтва. **20.** Студыя на БТ. **23.** Сліва. **27.** Упрыгожванне, каштоўны камень. **28.** Населены пункт у Беніне. **29.** Нота. **31.** Населены пункт у Францыі. **32.** Бог у мусульманаў. **33.** Прадстаўнік насельніцтва краін Блізкага Усходу. **34.** Польская паэтка. **35.** Каменная гара. **36.** Марка самалёта. **39.** Французскі пісьменнік. **40.** Населены пункт. **41.** Рака ў Азіі. **42.** Ласкавы, а часам зневажальны зварот да сабакі. **44.** Скапленне дрэваў. **47.** Захапленне гульнёй. **49.** Старажытны посуд. **51.** Французская манета. **54.** Сетка для адпачынку, нацягнутая гарызантальна. **55.** Дзейнасць дзяржавы, партыі, вызначаная іх інтарэсамі, мэтамі. **58.** ... пяюць рамансы (у адз. ліку). **60.** Сталіца еўрапейскай дзяржавы. **61.** Пірат. **63.** *Вядомая маладзечанская фірма (бурэнне свідравін пад ваду), тэл. 52953.* **65.** Правілы напісання слоў. **71.** Кампазітар, яго імя часцей за ўсё згадваюць разам з Моцартам. **73.** Рэдкая рэч. **74.** Дзікая жывёла. **78.** Населены пункт у Камеруне. **80.** Прадукт, атрыманы з дрэва. **81.** Сардэчна-сасудзістае захворванне. **84.** Дрэва. **89.** Трапічны плод. **91.** Рака ў Швейцарыі. **92.** Частка цела мужчыны. **94.** Заключная частка спаборніцтваў. **98.** Від кашулі (са стаячым каўнерам). **100.** Вялікая рыба. **102.** Даўгахвосты папугай. **103.** Нота. **105.** Вялізная жаба. **106.** Распаўсюджаная назва аўтамабільнага сігнала. **108.** Карабельная шлюпка.

## Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №22.

*Па гарызанталі:* **2.** Ветка. **6.** Балеро. **7.** Пурызм. **9** Ліміт. **10.** Таль. **11.** Этна. **13.** Сілас. **14.** Чмель. **15.** Даватар. **19.** Царква. **21.** Указка. **24.** Райграс. **25.** Пікасо. **26.** Ляднік. **27.** Нотніца. **28.** Ацтэкі. **31.** Нептун. **34.** Намітка. **38.** Арбат. **40.** Анчар. **41.** Сала. **42.** Змяя. **43.** Банту. **44.** Адрына. **45.** Лісцеў. **46.** Куцця.

*Па вертыкалі:* **1.** "Верас". **2.** Вольга. **3.** Тамара. **4.** Аптэка. **5.** Фрэнч. **6.** Беніца. **8.** Мятлік. **10.** Танк. **12.** Амга. **15.** Даронін. **16.** Войстам. **17.** Тэрміст. **18.** Руслана. **20.** Рэкет. **22.** Зеніт. **23.** Аркан. **29.** Цэрэра. **30.** Эпас. **32.** Поня. **33.** Ушакоў. **35.** Абабак. **36.** Івянец. **37.** Казуля. **39.** Тарыч. **40.** Аяксы.

## Яўрэйскі анекдот

# *Рабін, кантар, магід*

✡✡✡

Да рабіна прыходзіць цяжарная яўрэйка:

- Рабі, у нас ужо, няхай добра будзе, шасцёра дзяцей, а хутка народзіцца і сёмае. Хацела б параіцца з вамі на будучае: як пазбегнуць цяжарнасці?

- Трэба піць ліманад.

- Перад тым ці пасля таго?

- Замест таго.

✡✡✡

Ваколіца мястэчка. Палявой сцежкай ідуць рабін і Абрам. Раптам з-за плоту выбягае сабака і пачынае страшна брахаць. Рабін падцягвае халат і штосіл імчыць ад небяспекі.

- Рабі, - стараецца яго супакоіць Абрам, - і чаго мы ўцякаем? У Талмудзе ж сказана: Сабака не зачэпіць зубамі вучонага чалавека.

- Гэта праўда, - кажа рабін, не сунімаючы бегу, - але ці чытае сабака Талмуд?

✡✡✡

У адным купэ сустрэліся ксёндз і рабін. Размаўлялі аб розных справах. Між тым ксёндз распакаваў скрутак з ежай і запрасіў рабіна пакаштаваць вельмі апетытнага кумпячка. Рабін падзякаваў і дадаў:

- Прабачце, але нашы законы не дазваляюць есці свініну.

- Шкада, шкада, гэта ж так добра.

Прыехаўшы на месца, падзякавалі адзін аднаму за прыемную размову падчас дарогі і на развітанне рабін сказаў:

- Прывітанне вашай шаноўнай жонцы.

- Але ж спадару рабіну, мабыць, вядома, - адказаў ксёндз, - нам нашы законы забараняюць жаніцца, мы, каталіцкія святары, не маем жонак.

- Шкада, шкада, гэта ж так добра, - усміхнуўся рабін.

✡✡✡

Стаяла страшэнна сухое надвор'е. Да рабіна прыйшла дэлегацыя земляробаў прасіць стварыць цуд, каб пайшоў дождж.

Рабін насупіўся і вымавіў:

- Цуда не будзе, бо вы не верыце ў Пана Бога.

- Як не верым? Мы ж дзеля просьбы аб цудзе і прыйшлі.

- Няма веры. Бо калі б вы верылі ў Яхве, то адразу б прыйшлі з парасонамі.

